# Самапомач
# Samapomač

*Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс*

Год VII. Вільня, Кастрычнік 1938 г. № 10 (84).



*Аб чым піша «Самапомач»:*



Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.

# Навука з апошніх дзён

Усе ўжо сягоньня ведаюць, які грозны час перажыла Эўропа, а з ёй, можна сказаць, і цэлы сьвет у апошніх днях верасьня і першых днях кастрычніка сёл. Кончылася ўсё гэта тымчасам спакойна, калі ня лічыць тых мільённых і мільярдных сумаў, якія рознымі краямі былі выкінены на правядзеньне частковай мобілізацыі і на пратрыманьне праз некалькі ці колькінаццаць толькі дзён пад зброяй сваіх запасных ваякаў, і калі ня браць тут пад увагу, што адна з заінтэрэсаваных краінаў — Чэхаславаччына — моцна верачы ў абяцаную помач сваіх саюзьнікаў, у рашучую хвіліну была пакінена самой сабе і змушана плаціць высокі выкуп, адступаючы сваім суседзям часьць зямель.

Калі пішам гэтыя радкі, справа аканчальнай расплаты йшчэ ня вырашана. Незалежна ад гэтага аднак ужо сягоньня ёсьць ва ўсей гэтай справе адзін мамэнт, які ўжо стаўся, якога ўжо ніхто ня зьменіць, і які мае прынцыповае значэньне і для беларускага селяніна-земляроба. Што гэта такое?

У хуткім часе пасьля таго, як Польшч абняла ўладу ў прылучаной часьці Сьлёнска з-за Ользы, які прад тым належаў да Чэхаславаччыны, у газэтах зьявіўся афіцыяльны камунікат аб тым, што на становішча ўрадаўцаў у гэтым краі будуць прыймацца мясцовыя людзі, а сярод іх перад усім тыя асобы, **якія да апошняй хвіліны вытрывалі на месцы,** нікуды не ўцякаючы. — Тое-самае, як чуваць, зрабілі ўлады нямецкія ў прылучаным краі Судэцкім.

І адно і другое мае глыбокае моральнае значэньне. Наказы гэтыя прызнаюць і нагараджваюць людзкую сталасьць на сваім становішчы, хоць-бы яно пераходна і „не аплачывалася", было „цяжкім", „прыкрым" і г. д. — Лягчэй усё пакінуць і ўцячы, чым цярпліва выносіць труды, а часта і небясьпекі на месцы. Гэта ясна. І таму такая вытрываласьць у людзей на раз занятым становішчы цэніцца вельмі высака. — Ня з іншых, хіба, меркаваньняў выплываў і аднαчасны заклік чэхаў да сваіх братоў на адступленых землях Сьлёнска і Судэтаў, каб міма ўсіх труднасьцяў і нявыгодаў кожны аставаўся на сваім дагэтуляшнім месцы.

Чуючы і разважаючы ўсё гэта, мімаволі прыходзіцца зрабіць параўнаньне прывязанасьці культурных народаў да свайго краю з такою-ж прывязанасьцю селяніна беларускага. Гэта прывязанасьць нашага селяніна выстаўлена бывае часам на цьвёрдую пробу, пробу тым цяжэйшую, што адплаты за сваю прывязанасьць ён ад нікога спадзявацца ня можа.

Ці вытрывае?

Адказ можа быць толькі адзін: **вытрываць мусіць!** І той, хто мае вузкую палоску, і той, чыя ніўка шырэйшая — мусіць сваю спадчыну ўтрымаць, каб не дачакацца праклянцьця сваіх-жа дзяцей. Часовая „нявыгода", „неаплатнасьць" — гэта не апраўданьне ўцёкаў роўных бязстыднай дэзэрцыі.

Гэткі сэнс апошніх падзеяў і гэткі з іх выплывае наказ для нашага селяніна беларускага.



# Глыбей у зямлю!

Апошняй работай у полі перад на-ступленьнем зімы ёсьць г л ы б о к а я зі-мавая ворка. Аб значэньні добра праве-дзенай гэтай воркі можна пісаць цэлыя тамы. Але мы тут агранічымся да не-калькіх зацемак найважнейшых.

Якія заданьні мае восеньская ворка?

Наўперад восеньская ворка адва-рочвае баразьняную ськіву: тое што было наверсе — ідзе ўспод, а тое што было на сподзе выворываецца наверх. Гэта адзіная ворка, якая мае гэта за-даньне; больш як раз у год адварочваць баразьняную ськіву ня трэба і ня можна. Іншая ворка мае за заданьне або заво-рываць гной, або падлушчываць аржы-шча (зябіць).

Нашто адварочваецца баразьняная ськіва?

Расьліна засеенэя чалавекам бярэ спажыву з верхняга толькі пласту зямлі і таму за год з гэтага пласту больш ці менш дакладна высмакча ўсе кармовыя запасы. Калі пры канцы году гэтага п о- ў н а г а пласту не адвярнуць, дык у на-ступным годзе расьліна ня будзе мець чым карміцца; а калі гэты адварот зра-біць вясной, дык споднія пласты зямлі хоць і дастануцца на верх, то аднак ужо не пасьпеюць у час ажывіць у сабе пла-дароднага жыцьця бактэрыяў, не гаво-рачы ўжо зусім аб тым, што толькі на зіму ўзараная ральля станецца крупна-тай на ўсю глыбку. Гэту крупнатасьць (зярністасьць) дасьць глебе мароз: ён рассадзіць найбольш зьбітыя пласты зямлі на дробныя зярняткі, як рассаджвае напр. бутэльку замерзлая ў ёй вада. Гэта самая вада, як глебавая сырасьць, замярзаючы, крышыць на друбінкі і вы-араную сыспаду „дзікую“ зямлю, пры-гатаўляючы яе да жыцьця. Пры ўсім гэ-тым аднак трэба памятаць, каб глыбака ўзараная на зіму зямля ляжала ў вострай баразьне; баранаваць такой араміны прад зімой ня можна.

Кожную глебу аднак ня можна ад-разу глыбака ўзараць. Не! Глыбака ўзо-рываць можна толькі глебу ўраджайную. Калі-ж глеба з натуры сваей глыбокай ня ёсьць, дык яе паглыбляць трэба толь-кі памалу: у год на адзін, найбольш на два пальцы.

Але як тады быць, хочачы адразу паглыбіць глебу? На гэта спосаб такса-ма ёсьць: поле арэцца ў такім выпадку на звычайную ці толькі крыху больш як звычайную глыбку, а затое зараз-жа за плугам пускаецца двуконны па-

# Na Dzień Aščadnaści

31 kastryčnika kulturnyja narody śvie-tu buduć abchodzić piatnaccaty užo raz mižnarodny Dzień Aščadnaści. Časapis naš ad samaha pačatku pa-kazvaŭ u hety Dzień na patrebu ad-načasnaha aščadžańnia času, zdaroŭja i ŭsiakaj matarjalnaj majemaści. Sio-leta z pryčyny Dnia Aščadnaści zatry-majemsia bolš padrabiazna nad spo-sabami vykarystańnia času dziela aś-viety. — **red.**

Značeńnie aśviety ŭ žyćci całych na-rodaŭ i paasobnaha čałavieka siahońnia kožny razumieje. Kožny z hetym budzie zhodny. Nia tak prosta adnak zdajom sa-bie spravu z taho, **što heta takoje aś-vieta.** Časta možna spatkacca z dumkaju, asabliva siarod staršaha pakaleńnia na vioscy, što aśvieta heta ŭmieńnie siak-tak pračytać niejkuju papierynu prysłanuju z hminy, z biadoj papałam raśpisacca, nu i da sotni biaz palcaŭ zrachavać. Jasna, što heta aśvietaj nia jość, bo ŭmieńnie „čytać-pisać“ heta jšče nie aśvieta sama, a tolki ściežka da jaje. Ściežkaj hetaj moż-na jšci karaciej ci daŭžej, možna zrazu ŭzyjšci na dobruju darohu, ale možna i doŭha błudzić pa biezdarožžy, možna chutka dajšci da mety, ale možna hetaj mety nikoli i nie pabačyć.

Vidać z hetaha, jak važnym jość znajšci adpaviednuju darohu.

Pieršym pakazalnikam dobraj daro-hi da aśviety, jość r o d n a j a m o v a „padarožnaha“ kali nie praz usiu darohu, dyk prynamsia ŭ pieršaj jejnaj pałavinie. Heta jość pieršaje asnaŭnoje pravila.

Druhim pakazalnikam dobraj darohi da aśviety jość dbajnaść ab jej praz usio žyćcio.

I adno i druhoje jość zrazumiełym siarod narodaŭ zdaŭna žyvučych svaim niezaležnym žyćciom. I tamu hetyja na-rody i „razumnyja“ i „bahatyja“ i „mud-ryja“ i h. d. Tyja-ž narody, nad katorymi zdaŭna zavisła bolš ci mienš ciažkaja apieka čužyncaŭ, heta najčaściej, kali nie

# ВОСЕНЬСКІЯ СХОДЫ Ў КООПЭРАТЫВАХ

Ёсьць два гатункі сяброўскіх сходаў у коопэратывах: адзін з іх, прадбачаны коопэратыўным законам і празначаны перад усім дзеля праслуханьня справаздачы Управы коопэратывы, Нагляднай Рады і Цэнтр. Саюзу коопэратываў, дзеля падзелу надвышкі ці пакрыцьця страты, дзеля зацьверджаньня апрацаванага б ю д ж э т у (супастаўленьня прадбачаных выдаткаў і прыходаў) і дзеля перавыбару ўладаў коопэратывы на год наступны. Гэткія сходы адбываюцца звычайна вясной. Па вырашэньні ўсіх пералічаных справаў наказаных коопэратыўным законам, у сабраных няма ўжо звычайна ані сілы ані ахвоты займацца справамі бягучымі, ад папярэдніх ня менш важнымі, бо жывымі. І гэткія вось якраз справы празначаюцца на асобныя сходы, якія склікаюцца ў в о с е н і. Сходы гэтыя законам не вымагаюцца, але вартасьць іхняя для жыцьця коопэратывы ад гэтага нічуць ня меншая, а можа нават большая ад папярэдніх. У кожным разе ад гэтых восеньскіх сходаў вельмі многа залежа, як будзе коопэратыва працаваць і з чым стане на гадавую справаздачу на сходзе вясной.

Якія-ж гэта справы павінен разглядаць сяброўскі сход коопэратывы ўвосені?

Справаў такіх можа быць вельмі шмат, залежа гэта ад характару самай коопэратывы і ад спэцыяльных умоваў працы на месцы. Дзеля гэтага абмяжоўваемся тут да гэтак званага рамовага супастаўленьня справаў у паасобных гатунках коопэратываў. І так:

*а*) у коопэратывах **ашчадна-пазычковых** трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на тое, як даўжнікі коопэратывы (касы) рэгулююць свае даўгі. Гэта пытаньне мае першараднае значэньне для

---

глыбяльнік. Гэтак паступаючы сподняй дзікой зямлі ня выворываем на верх, але адначасна гэта зямля ў сподзе (пад баразной) вельмі дакладна ўспульхняецца і ў ёй пачынаецца жыцьцё.

Вот гэта й ёсьць тыя прычыны, дзеля якіх кожную незасееную ніўку прад настаньнем зімы трэба глыбака ўзараць і пакінуць на мароз у вострай баразьне. Добры-ж ураджай можа даць толькі глыбокая глеба.

*А. К.*

---

zaŭsiady, i biednyja(!), i ciomnyja i „durnyja." Adnaho tolki pry hetym roznyja „apiakuny" zvyčajna nia kažuć, što jany samyja dla voka „pamahajučy biedavać," bolš ci mienš zaŭziata ale blizu zaŭsiady hasiać śviatło praŭdzivaje aśviety. Prykładaŭ hetaha poŭna jak u historyi tak i ŭ žyćci.

Ale nie ab hetym chočam tut havaryć: dla nas siahońnia važna ŭspomnić i trymać sabie ŭ pamiaci, jak roznyja, navat silnyja i bahatyja, narody dbajuć biazupynna ab svaju aśvietu, vykarystoŭvujučy da hetaha kožnuju volnuju chvilinu, kožnuju mahčymaść.

Prykładam takoj dbajnaści jość hramadzianstva anhlickaje, taja pierad usim jahonaja čaść, jakaja zhurtavana ŭ roznych kooperatyvach.

Zdavałasia-b chto jak chto, ale anhličanie to ŭžo napeŭna davoli majuć i času i hrošaŭ, kab pakončyć aśvietu ŭ svaich biazlikich školach pierš, čym prystupić da praktyčnaha žyćcia, znača ŭ vieku školnym. Tak zdavałasia-b, ale tak nia jość. Anhličanie vučacca praz usio svajo žyćcio. Škoła normalnaja dla ich heta tolki pieršy pačatak: heta škoła tolki jak-by „vučyć vučycca," vučyć staŭlać pieršyja kroki, pryvučaje da knižki, jak najlepšaha daradčyka i padkazčyka — dalej čałaviek pavinien užo šukać darohi samadzielna. I anhličanie šukajuć jaje vielmi staranna.

Jak i našto heta jany robiać?

Vot-ža, kali mova ab anhlickich kooperatarach, dyk jany ad samaha pačatku svaje pracy źviarnuli pilnuju ŭvahu nia tolki na navučańnie, ale i na v y c h a v a ń n i e novaha čałavieka. Vychodzili pry hetym z taho razumieńnia, što ad vychavaŭča-hramadzkaj pracy zaleža ŭsia budučynia kooperacyi. Heta dumka łunała ŭžo ŭ pieršych pačynańniach Ročdejlskich pioneraŭ, jana prabivajecca praz ŭsie pastanovy mižnarodnych i nacyjanalnych kooperatyŭnych kanhresaŭ siahońnia.

Na praciahu 90-ci hadoŭ pracy an-

і
снаваньня коопэратывы і для самых
ейных сяброў: калі даўжнікі не акуратна аддаюць даўгі, дык коопэратыва (каса) ня можа выдаваць дальшых пазычак, а сябры ня могуць гэткіх пазычак даставаць. Гэта справа заўсяды абавязуючая. Да гэтага трэба йшчэ на восеньскім сходзе абгаварыць справу наладжаньня „Дня Ашчаднасьці" і сталай прапаганды самай ашчаднасьці;

*б*) у коопэратывах **спажывецкіх** і ім падобных у першую чаргу трэба застанавіцца на восеньскім сходзе над справай асортымэнту (падбору) тавараў. Тут месца і час паказаць на розьніцу паасобных гатункаў таго самага тавару, на спосаб даставы тавараў, сьцягваньне старых даўгоў за прададзеныя тавары і пастанову не даваць больш тавараў на павер. Калі коопэратыва займаецца скупам і прадажай земляробскіх прадуктаў, як збожа, яйкі і інш., дык цяпер час устанавіць правілы такога скупу. — Урэшце

*в*) у коопэратывах **малачарскіх** найбольш увагі цяпер трэба зьвярнуць на ўтрыманьне як можна большай даставы малака ў пару зімовую. Мае гэта вялікае значэньне на кошты ўтрыманьня коопэратывы (малачарні), на правільнасьць ходу працы ў ёй, а так жа на аплатнасьць самай жывёлагадоўлі, бо малако (і масла) ў гэту пару найлепш аплачваецца. Зразумелая рэч, што самага толькі слоўнага заахвочваньня тут мала; тут трэба конкрэтна паказаць розьніцу цэнаў улетку і ўзімку, а такжа паказаць на канешнасьць р а н ь н я г а дастаўляньня дойных кароў да добрага бугая.

Пры канцы ня можна забыцца, што мэтай коопэрацыі ёсьць ня толькі заашчаджаны тым ці іншым спосабам грош ці залатоўка, але так-жа пераўзгадаваньне ўсіх самалюбных нахілаў чалавека у кірунку **грамадзкага супрацоўніцтва.** Гэта ўзгадаваўчая праца коопэратываў ёсьць важнейшай ад іхняй чыннасьці гаспадарскай. Але пераўзгадаваць чалавека ня можна ніякімі пастановамі ці наказамі. Пераўзгадаваць значыць перад усім дастацца да самай душы чалавека, яе зразумець і здаволіць, адкідаючы ўсё, што такому здаваленьню стаіць на перашкодзе. А на перашкодзе стаіць **недахват асьветы.** Таму на агульных восеньскіх коопэратыўных сходах трэба спэцыяльна памятаць аб асьветнай чыннасьці сярод сваіх сяброў.

Як гэту асьвету праводзіць?

Пэўна-ж, кожная такая вясковая коопэратыва адчыняць ані тымбольш

---

lickija kooperatary apracavali šmat roz-
ych vidaŭ navučańnia i vychavańnia. Majuć jany stałyja kooperatyŭnyja kursy dla dziaciej, dla moładzi i starejšych, hulna-aśvietnyja i instruktarskija dla pracaŭnikoŭ u kancelaryjach, składach i kramach, dla zahadčykaŭ i kiraŭnikoŭ, knihavodaŭ (buchhaltaraŭ), revidentaŭ i inšych specyjalistaŭ; arhanizujucca kursy vakacyjnyja, hurtki i tavarystvy spartovyja, tavaryskija...

Ale dziela arhanizavańnia stałych ravilnych kursaŭ nia ŭsiudy jość adpaviednija ŭmovy, nia ŭsie mohuć kinuć svaje štodziennyja zaniatki, kab jechać na katory-niebudź, choć-by i najkaraciejšy kurs. Kožny adnak pry dobraj voli, kali olki znojdzie choć-by ŭ tydzień niekalki volnych hadzin, moža ich praznačyć na čytańnie sumysna tak ułožanych knižak brašur, jakija daduć toje samaje, što daje — słuchańnie lekcyjaŭ na katorym-niebudź kursie. Na hetkaj padmienie apierta jość systema hetak zvanaha **zavočnaha ci korespondencyjnaha navučańnia.** Nazyvajecca jano tak dziela taho, što ani vučań vučyciela, ani vučyciel vučnia u časie navučańnia nia bačać, a tolki miž saboj pierapisvajucca. Prahrama takich zavočnych kursaŭ takaja samaja, jak i prahrama kursaŭ vusnych, z vyniatkam takich pradmietaŭ, jak krasamoŭstva, śpieŭ, jakich zavočna pakazać na prykładzie nijak nia možna, a prynamsia dahetul vielmi było trudna, chiba tolki na plitkach hramafonnych (ci na radjovych istužkach), jak heta ŭžo robiać pry navučańni čužych movaŭ.

Padčyrkivajem jašče raz, što hetak vučacca praktyčnyja i bahatyja anhličanie, jakija i biez taho majuć niaźličanyja mahčymaści (svaje škoły, arhanizacyi, biblijateki, čytalni) biaz nijakich pieraškodaŭ zdabyvać sabie aśvietu. Tamu ŭ chutkim, časie hety sposab navučańnia pierakinuŭsia da inšych narodaŭ i na inšyja pradmiety. Nie adbiahajučy daloka, siahońnia ŭžo navat našy susiedzi: palaki, ukraincy

утрымоўваць асобных школаў ня будзе. Але ў граніцах магчымасьці кожнай нашай коопэратывы ёсьць пастарацца напр. залажыць сваю коопэратыўную бібліятэку, у каторую з фондаў самай коопэратывы купляліся-б патрэбныя кніжкі, выпісваліся-б адпаведныя часапісы і газэты. Статут коопэратывы пазваляе так-жа рабіць усьведамляючую коопэратыўную працу пры помачы адпаведных рэфэратаў, дыскусіяў, нават прадстаўленьняў спэцыяльных тэатральных твораў. Пры ўсім гэтым тыя коопэратывы, сябрамі якіх калі не ў абсолютнай дык у пераважаючай большасьці зьяўляюцца беларускія сяляне, мусяць ведаць, што працуюць ані на Марсе, ані на Месяцы, і абмінаньне ў усякай працы ў такіх коопэратывах беларускай мовы было-б карыгоднай палітыкай, якая на грунце коопэрацыі ёсьць недапусьцімай. Таму беларускія сябры ўсякіх коопэратываў маюць ня толькі поўнае права, але і абавязак дамагацца правоў для свайго беларускага языка, ужываючы яго сьмела на сходах, жадаючы, каб у бібліятэках былі між іншым і беларускія фаховыя кніжкі, часапісы і газэты. — Усяго гэтага вымагае дабро коопэрацыі. **Коопэратар.**

# Абніжэньне рэшты цаны за зямлю

Дня 31.12 сёл. мінае час, у якім можна падаваць просьбы (wnioski) на абніжэньне рэшты цаны за купленую зямлю. Просьбы гэтыя да канца сёл. году можа падаваць кожны ўласьнік сельскай гаспадаркі, калі купча была зроблена ў міжчасе ад 28.IV.1924 г. да 1.XII.1932 г. У гэтых выпадках доўг можа быць абніжаны паводле нормаў прадбачаных у дэкрэце аб аддаўжэньні. Датыча гэта як тых уласьнікаў, якія ня маюць яшчэ ўрэгуляванага тытулу ўласнасьці, як таксама і тых, каторым уласнасьць была прызнана судом паводле законаў аб рэгуляваньні права ўласнасьці, але без застасаваньня дэкрэту аб аддаўжэньні. У абодвух выпадках суды ці „разьемцы“ могуць вырашаць просьбы, калі толькі яны будуць пададзены ў адпаведнім часе.



i inš. majuć cełyja navučalnyja ŭstanovy na sposab **zavočny.** Abminajučy tut tyja-ž užo ŭspaminanyja pradmiety z haliny kooperacyi, uspomnim tut choć-by ab roznych kursach ziemlarobska-haspadarskich, hadaŭlanych, małačarskich, pčalarskich, sadoŭnicka-aharodnickich, dalej — buchhaltaryjnych; i što moža tut nie adnamu pakažycca najcikaviejšym, heta toje, što isnujuć užo cełyja himnazii, ahulnyja i specyjalnyja (dahetul viedamy nam vypadak zavočnaj himnazii typu *handlovaha*), a navat — škoły pačatkavaj (addziely vyšejšyja).

Usio heta małaja tolki vybarka, jakaja adnak davoli vyrazna pakazvaje, jak ludzi sapraŭdy imknucca da aśviety. Robiać heta siahońnia ŭsie. Robiać heta tyja narody, jakija majuć huściejšuju ci radziejšuju sietku svaich školaŭ normalnych i ŭ raźvićci svaje aśviety mohuć volna karystacca ŭsimi dastupnymi srodkami. Jak-ža važna tady było-b, kab sposabam zavočnaha navučańnia zacikavilisia i **biełarusy**, dla jakich siahońnia ŭsiaki sposab zdabyćcia aśviety jość adzinaj mahčymaściu tryvałka papravić svoj los.

Sproby zavočnaha navučańnia siarod biełarusaŭ u Polščy ŭžo byli. Pakazali jany, što i ŭ nas zacikaŭleńnie takim sposabam navučańnia jość vialikaje. Kali-ž nie ŭ adnym takim vypadku praca abarvałasia na pałavinie darohi, dyk vina hetaha była pierad usim u pieraličeńni kiraŭnictva takoha kursu na svaje siły. Vychodzili ŭ śviet adzin-druhi — dziesiaty ššytok takoha kursu, ale na dakančeńnie, jak kažuć, „nie chapała porachu.“

Kidajučy hetyja abrazki z žyćcia j pracy dalokaj zahranicy i prymieryvajučy ich da varunkaŭ biełaruskich, chaciełasia-b zakliknuć da pracy jak tych chto z hetkich kursaŭ mieŭ-by karystać, tak i tych, chto imi mieŭ-by kiravać. Prychodzić vosień, a za joj uśled jdzie zima. Doŭhija viečary zamiest tracić na pustuju hutarku, hulni a časam brydkija bojki, možna, i treba **zaaščadzić** na navuku. Pastanavima heta ŭ Dzień Aščadnaści. Pastanavima i vykanajma! **S. R.**

# Абгледзьце свой садок вясной!

Калі мінаюць апошнія ўжо дні зімовага сну нашых садовых дрэўцаў, разам з усім добрым і патрэбным прабудзіцца аднак да жыцьця і цэлая тысячная, а нават міліонная армія большых і меншых шкоднікаў нашых садоў. Паміж такіх шкоднікаў, якіх яшчэ час лягчэй зьнішчыць, а якія хутка ўжо пачнуць распаўзацца па ўсім садзе, трэба залічыць *пярсьцёначнага шўакапрада,* паказанага на нашым абрэзку.



**Пярсьцёначны шаўкапрад.**

З-права — яечкі, пасярэдзіне — сьпелая гусеніца, зьлева—сьпелы матыль пярсьцёначнага шаўкапрада.



тэрыі ў кішцэ ёсьць стала і стала працуюць. — Вотжа ў тым і справа, што звычайным парадкам чыннасьць бактэрыяў устрымліваецца рознымі страўнымі сокамі. Калі-ж чалавек прыйме за шмат вады, тады сокі гэтыя ў вадзе распусьцяцца і іхняя дзейнасьць на бактэрыі аслабляецца. Чыннасьці-ж самых бактэрыяў цяпер нішто ўжо ня стрымлівае і таму наступае сільная фэрмэнтацыя, якую чалавек адчувае як „абдуцьцё“

Знача вада тут тым шкодная, што распускае страўныя сокі; а акрамя таго яна занадта скора спажытую садовіну спаласківае з жалудка ў тонкую кішку і гэтым самым не пазваляе гэтай страве належна „пераварыцца“ ў жалудачных соках.

З усяго гэтага рада можа быць толькі адна: **наеўшыся садовіны ніколі ня піць вады.** Важна гэта для кожнага, а асабліва для таго, хто есьць садовіну „на навіну.“

Л. М.

# Як адратаваць дрэўца абгрызенае зайцамі?

Каму ня ведамае гора ўласьніка маладых ушчэпаў, якія раптам абгрызуць зайцы, трусы ці нехта там яшчэ іншы?! Кара патрэбна дрэўцу ня толькі як прыкрыўка, але і як спосаб разьвядзеньня па ім аджыўчых сокаў. І калі з нейкай прычыны дрэўца такое раптам астанецца кругом без кары, дык гэта прыблізна тое самае што рынак адгароджаны ад вольнага давозу: дрэўца без кары жыць ня можа і, калі яго не ратаваць, дык раней ці пазьней, а напэўна загіне.

Але не заўсёды.

Калі кара абгрызена толькі на няшырокім прапрасторы, дык ратунак яшчэ ёсьць. Гэткі выпадак паказаны на далучаным рысунку (бач.75): зьлева—дрэўца абгрызенае, пасярэдзіне —прыгатаванае да ратаваньня і зправа — з наложаным „бандажом“. Спосаб накладаньня гэтага „бандажа“ відаць з самага рысунку. Парадак працы гэткі:

Найперш абгрызеныя берагі кары на дрэўцы трэба роўна абрэзаць вострым нажом. Тады трэба прыгатаваць чатыры тоненькія жывыя ветачкі, так доўгія, каб маглі абхапіць рану зьверху ўніз і яшчэ каб асталіся вольныя, наўкос зрэзаныя канцы на прыкладку. Таксама трэба мець два кускі ліповага лыка.

Як гэта ўсё прыгатавана, тады зьверху і зьнізу раны робяцца ў кары вострым нажом па чатыры разрэзы ў форме літары „Т“ (уверсе гэта літара ставіцца дагары). У гэтыя разрэзы ўстаўляюцца загадзя прыгатава-



Ставіць будкі трэба на адпаведняй вышыні, бо кожны род птушак мае іншыя вымаганьні. Меншыя птушкі любяць ніжэй, ад 3 да 4 мтр., большыя, напр. шпакі, вышэй, на колькі можа пазволіць дрэва. Для шпакоў на адным дрэве можна ўстаўляць некалькі будак. Меншыя птушкі, апрача вераб'ёў, ня любяць блізка сябе гнязьдзіцца і патрабуюць адлегласьці ад сябе



Будка на гняжджэньне птушак.

найменш 30 мтр. Ставіць будкі трэба дзіркай на ўсход, або паўдзённы ўсход.

Далётная дзірка мусіць мець добры далёт, гэта значыць, каб яе не закрывалі галінкі дрэва. Вельмі важным ёсьць, каб да будкі ня мог дабрацца кот.

М. К.

# Будуйце птушкам гнёзды.

Ведаем ужо, што за мала вартасны пожыў у зімку, як крошкі, посьлед, вясной птушкі адудзячваюцца ў сотні разоў, баронячы пладоў, дрэваў садовых, агародніны і інш. Але праз зімку ў нас астаецца да розных шкодных рабакоў толькі мала такіх птушак; шмат іх прылятае да нас толькі з настаньнем вясны. Іх трэба старанна тады прыняць, каб загнезьдзіліся ў блізкасьці людзкога жыльля.

Зрабіць гэта зусім лёгка. Ня трэба нават найменшага грашавога выдатку. Хваціць крыха добрай волі і пара хвілін часу дзеля завешаньня на дрэвах адпаведна зробленых будачак. Адна такая будачка паказана на побач далучаным рысунку (гл. бач. 79).

У добра зробленых і адпаведна ўстаўленых будачках птушкі загнежджываюцца вельмі ахвотна. Справа йшчэ лягчэйшая, калі птушак праз зіму падкормлівалі ў садзе, і праз гэта прывыклі яны да данага месца.

Будку для птушак збудаваць можа кожны сам на падставе ўласных помыслаў. Адзін з такіх помыслаў паданы на рысунку. Можна так-жа зрабіць будку з дуплявага кругляка. Трымацца трэба аднак засады, каб будкі ня былі ані завялікія, ані замалыя, мяркуючы паводле таго, для якіх птушак яны празначаны. Лётная дзірка мусіць быць у верхняй частцы, а вялічыня яе павінна быць так-жа дапасавана да вялічыні птушкі. Дно будачкі лепш рабіць няшчыльнае, каб не затрымлівалася дажджавая вада. Стрэшка павінна быць шчыльная і крыху нахіленая ўперад. Некаторыя птушкі, як мухалоўка, любяць будачкі без пярэдняй сьцяны.



ныя галінкі і ўсё абвязваецца лыкам так, як гэта паказана на далучаным рысунку — з правага боку. Творыцца гэтак званы „масток“, па каторым хутка пачнуць плыць жыўныя сокі, дрэўца пачынае расьці нанова і рана паволі зарастае (сьцягваецца).



**Мастковае прышчэпліваньне дрэўца абгрызенага зайцамі.**

Гэткі спосаб ратаваньня абгрызенага дрэўца называецца шчапленьнем „на масток“ і практычнымі садоўнікамі вельмі хваліцца.

В. Р.

## Падкармліваньне птушак — садаводавых саюзьнікаў

Не адзін навочна мог праканацца, колькі гіне ад марозу і ад голаду розных карысных для садоўніка птушак, якія вясной і ўлетку бароняць сад і агарод ад такіх злосных шкоднікаў, як ліставая тля (мшыца), розныя гусьвіцы, хрушчы і ім падобныя. Гэткім дробным птушкам, як сікора, дрывасечка (кавалік) і нават наш шэры верабей, чалавек затое мусіць памагчы перазімаваць. Усе гэтыя птушкі, ня маючы схову прад сьцюжаю, гінуць, асабліва калі церпяць дакучлівы голад. А небясьпека голаду для дробных пераважна птушак узімку тым страшнейшая, чым грубейшая сьнегавая пакрыўка спавівае нашу зямлю. Праўда, у большасьці нашага Краю сьнегу бывае ня так ужо шмат, але ўсё-ж досыць на тое, каб прыкрыць дробныя высыпаныя зярняткі рознага пустазельля й збожжа, якімі толькі гэтыя птушачкі ўзімку й могуць карміцца.

Ясная згэтуль небясьпека голаду для гэтых людзкіх прыяцеляў, каторых чалавек, у сваім собскім інтарэсе, павінен цяпер падтрымаць. Вялікіх выдаткаў на гэта ня трэба. Хопіць, калі час ад часу высыпаць нейдзе за ветрам жменю пасьлядзяў ці нават мякіны, крошак хлеба, пакрышаную бульбіну і г. д.

Толькі й тут найлепшае жаданьне чалавека можа быць нераз безкарысным, а нават і небясьпечным для птушкі. Безкарысным будзе яно тады, калі яго засьнежа сьнег, а небясьпечным — калі падсыпаная падкормка будзе даступная для такіх непрыяцеляў малых птушак, як каты.



Каб падкормку не засыпаў сьнег і каб птушкам не грaзіў кот, трэба канешна не пашкадаваць труду і прыгатаваць на падкормку асобную крытую будку, як гэта паказана на далучаным рысунку. Будку гэту трэба прымацаваць на загадзя ўбітым у зямлю калку.



Будка для падкормкі птушак.

Гэта ёсьць канешная работа пры апекаваньні над птушкамі, якія зімуюць у нас на месцы. Трэба аднак памятаць і аб тых птушках, якія на зімку ад нас адлятаюць у цёплыя краіны і якія з настаньнем цяплейшых дзён вясны пачнуць да нас вяртацца. Іх мусіць гаспадар таксама спатыкаць ветліва, стараючыся, каб як найболыш іх пасялілася ў беспасярэднім суседзтве, у гародах і садох.

На гэта патрэбны гнёзды, аб якіх мова ў наступным артыкуле.

**В. Р.**

# Галоўныя правілы падкуваньня каня

1. Каня ўжыванага да працы на грунтох і дарогах цьвёрдых, брукаваных, камяністых ці на шосах, трэба падкуваць ці перакоўваць кожныя 4—6 тыдняў. Коняў з капытамі плоскімі, поўнымі і крохкімі, калі падкова трымаецца моцна, трэба каваць кожныя 6—8 тыдняў.

2. Калі падкова развольнілася ці калі вываліўся з яе вухналь, трэба яе прыцягнуць, убіваючы вухналь нанава.

3. Коні, якія ня могуць працаваць (хворыя і г. д.) праз 4 і больш тыдняў, трэба разкуваць на ўсе ногі, сьціраючы пры гэтым роўна споднія берагі капыта пры помачы напільніка.

4. Памятаць, што падкуваньне ёсьць канешным і тады, калі-б падкова ня была цалком зношанай; пры пераросьце рогу капыта, асабліва спераду, заломываецца вось путавой касьці і гэта зьмяняе форму і абцяжэньне капыта; падкова становіцца завузкай і закароткай, конь пачне спатыкацца або стругаць (нагамі), урэшце будзе падбівацца і можа ахрамаць.

Таксама, калі лопне падкова, ці хутчэй зносіцца, каб паправіць капыт, трэба неадкладна перакуваць.

5. Падкуваць трэба звычайна „на цёпла“, датасоўваючы падкову на гэтулькі астуджаную, каб можна было яе трымаць у руцэ. Падкуваньне „на гарача“: г. зн. дапасоўваньне гарачай падковы да капыта — ня можна радзіць, бо каваль тады ня выгладзіць верхнюю часьць падковы і гузы жалеза выпальваюць тады сабе гнёзды ў розе капыта. Ад'емнай стараной падкуваньня „на зімна“ ёсьць труднасьць дапасаваньня падковы; у такіх выпадках дапасоўвуецца не падкова да капыта, а капыт да падковы, а гэта можа быць для каня вельмі шкодным.

6. Падкувач, перш чым прыступіць да здыйманьня падковы, павінен дакладна абгледзіць каня спачатку на месцы, а пасьля ў руху.

7. Пры здыйманьні падковы ня можна стасаваць рознага тузаньня сілком, вухналі трэба выцягваць паасобку, зьбіраючы іх у жменю, не раскідаць па зямлі. Абчысьціць капыт і выцягнуць паадламаныя часьці вухналёў, бо гэтыя адломкі, калі іх пакінуць у капыце, могуць скрывіць новаўганяныя вухналі ў бок і гэтым самым быць прычынай загважджэньня.

8. Зьнятую падкову трэба добра абгледзіць, каб даведацца, як трэба каваць; асабліва ўважна трэба абгледзіць як падкова сьціраецца. Таксама трэба ўважна абгледзіць берагі зьнятай падковы, ці няма на ей знакоў ад удараў задніх падковаў, што ёсьць доказам наступаньня заднімі капытамі на пярэднія; калі конь стругае, дык сьціраецца ўнутраная старана падковы.

9. Падкова мусіць пакрываць усю падэшву і пры гэтым павінна быць відавочнай спад капыта наперадзе і па бакох на грубіню капытнага рогу, а пачынаючы ад бакавой сьцяны павінна штораз больш выставаць. Найбольш павінна выставаць падкова пры канцох бакавых капытных сьценаў. У гэтым месцы падкова павінна быць таксама даўжэйшая, бо ў меру росту капыта падкова становіцца за кароткая; трэба памятаць, што падковы прытасаваныя лішне вузка з-заду бываюць прычынай падбіткі, а лішне вузкія наперадзе і з бакоў — закаваньня.

10. Падкова кладзецца на капыт гэтак, каб дзіркі на вухналі прыпадалі напроціў вонкавага берагу гэтак званай белай лініі капытнага рогу. Нармальна вухналі павінны выйсьці сыспаду наверх на адну трэцюю вышыні рагавой сьцяны капыта ў кожным месцы, г. зн. павінны яны выходзіць па аднэй роўнай лініі, ройналеглай да берагу каронкі. Акрамя таго гэтыя выступы вухналёў павінны выходзіць у роўных водступах адзін ад другога. Канец абрэзанага вухналя павінен на гэтулькі выставаць, як шырокім ёсьць ён у гэтым месцы. Ніт павінен мець форму чатырохкутную. У кожным месцы, дзе вухналь выходзіць на верх, у сьценцы капыта робіцца напільнікам малая ямка, у каторай хаваецца заплаваная галоўка вухналя. Нявольна апілоўваць капыта да формы капыта.

Падкаваўшы каня трэба праверыць цэласьць працы і рухі каня. Калі конь ашчаджае каторую небудзь нагу, дык трэба неадкладна праверыць і справіць прычыну і калі йнакш ня можна, дык нават раскаваць каня. Калі конь храмае на каторую небудзь нагу, дык гэта знак, што праўдападобна гэта нага заканая.

Узімку конь мусіць мець укручаныя ў падковы вострыя шыпы, якія не пазволяць каню сьлізгацца па лёдзе, сьнезе ці грудзе. Шыпы ўкручываныя асобна даўжэй трымаюцца вострымі, чымся шыпы адкаваныя з таго самага жалеза, што і сама падкова. Укручываныя шыпы можна і трэба выкручываць, калі каня стаўляюць па працы ў канюшні.

11. Грубіня падковы залежа ад велічы капыта, у сярэднім выносіць яна 10 мм. (1 сантымэтр). Шырыня падковы павінна быць у два разы большая, чым шырыня берагу аснаўной часьці рагавой сьцяны, разам з белай лініяй. На прымацаваньне падковы да капыта малога даволі даць з кожнай стараны па 3 вухналі; да капыта сярэдняга ўсяго трэба 7—8 вухналёў (3 вухналі з нутранага і 4 вухналі з вонкавага боку). На пярэдняй падкове спераду капыта памяшчаецца адзін каптурык, вышыня каторага на 12 і шырыня ў сподзе каля 15 мм. Заднія падковы павінны мець па два каптурыкі па баках, кожны паміж першай і другой вухналёвымі дзірачкамі падковы. Коням пад верхавую язду ўкручваюцца шыпы пры канцох падковаў; коням-жа, што ходзяць у вупражы, апрача таго ўкручваюцца йшчэ шыпы на перадзе падковы.

**м-р Левговд**
*„Tyg. Roln.“*



*Хай злыдні над намі,*
*скрыгочуць зубамі:*
*Любі сваю ніву, свой край.*
*І, калькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй, засявай!..*

*ЯНКА КУПАЛА.*



## Чаму жывёла п'е гнойную жыжку?

Часта бачым такое явішча, што каровы, цяляты ці сьвіні выпушчаныя на вадапой, замест піць ваду, бягуць да лужы з гнойнай жыжкай і ахвотна яе п'юць. Дзівіць гэта нас і часта застанаўляемся, чаму жывёла так робіць? Ці-ж ёй гнойная жыжка смашнейшая чым вада? Адказ на гэта дасьць нам падгляданьне і навука. Гнойная жыжка мае ў сабе мінэральныя солі, як вапна, фосфарныя і паташовыя солі і інш канешныя складнікі як маладой так і старшай жывёлы.

Вот-жа жывёла тады толькі п'е гнойную жыжку, калі ў арганізьме сваім адчувае недастатак гэтых якраз соляў. Калі жывёла дастае такую пашу, якая мае ў сабе шмат патрэбных соляў, напр. белая ці чырвоная канюшына, лянны макух, касьцяная мука ці сушаная кроў — тады не адчувае ў сваім арганізьме недахвату гэтых неабходных мінэральных складнікаў і гнойнай жыжкі ня п'е. Трэба ведаць, што ў арганізьме мінэральныя солі патрэбныя дзеля вытварэньня жылаў і касьцей, а таксама крыві, малака і г. д. і таму зьяўляюцца канешнымі для жыцьця й росту арганізму жывёлы. Доказам гэтага ёсьць хоць-бы тое, што ў выпадку нястачы ў арганізьме мінэральных соляў, жывёла траціць на сіле, каровы зьмяншаюць дойнасьць, паўстаюць хваробы косьцяў, а пры цяленьні западаюць на параліж і г. д. Таму тая жывёла, якая не атрымоўвае соляў у корме, кіруючыся інстынктоўным адчуваньнем, знаходзіць пэўны лік гэтых соляў у гнойнай жыжцы і з прагнасьцю гэту жыжку п'е. Акрамя гнойнай жыжкі такая згаладалая жывёла грызе зямлю ці тынк, ліжа сьцены і г. д. Пры ўсім гэтым жывёла можа вельмі лёгка заразіцца такімі хваробамі як чырвонка, яшчур (прышчыца), сьвінячы мор і інш. Акрамя заразных хваробаў, піцьцё гнойнай жыжкі можа быць прычынай такіх хвароб, як катар кішак, кармаправоду і інш. абнядужаньняў.

Дзеля ўсяго гэтага ніколі ня можна дапускаць, каб жывёла піла гнойную жыжку.

Хвароба, якая паўстае ў арганізьме з прычыны нястачы мінэральных соляў, называецца *гіпокальцэмія'й*. Спатыкаецца яна пераважна ў мясцовасьцях, дзе

пасьбішчы бедныя на мінэральныя солі. Асабліва востра выступае яна ў гадох сухіх, бо тады расьліны маюць у сабе найменш мінэральных соляў; таксама адчувае недастатак мінэральных соляў жывёла кормленая завялікімі порцыямі акопнінаў без дадатку збажжавінаў ці фабрычных концэнтраваных кармавінаў. — У маладняка: цялятаў, жарабятаў, ягнятаў, — хвароба з нястачы ў корме мінэральных соляў, галоўным чынам вапняных і фосфарных, абʼяўляецца зараз-жа па адлучэньні ад маткі. Уплывае на гэта зьмена пашы, недастатак мінэральных соляў, якія знаходзяцца ў малацэ маткі, а так-жа вітамінаў, якія знаходзяцца ў зялёнай пашы. Каб забясьпечыць жывёлу перад гэтаю хваробаю, трэба ня толькі маладняк, але і старшую жывёлу, асабліва самкі, карміць пашаю концэнтраванаю, як напр. авёс, ячмень, гарох, лянныя і сонешнікавыя макухі, мясна-касьцяная або крывяная мука, а таксама фосфарная вапна й шлямаваная крэйда.

Навукова сьцьверджана, што падаваньне малых порцыяў фосфарнай вапны нават тады, калі жывёла атрымоўвуе даволі поўнавартаснай пашы, вельмі добра ўплывае на здароўе як жывёліных матак, так і на іхняе патомства. Мінэральныя солі, а перад усім шлямаваную (выплаўляную) крэйду і фосфарную вапну трэба даваць разам з пашамі концэнтраванымі ў гэткім парадку: зьмяшаць дзьве часьці шлямаванай крэйды і адну часьць фосфарнай вапны і даваць каровам як дадатак да пашы па аднэй сталовай лыжцы раз у дзень, а цялятам, жарабятам і сьвіням— па аднэй лыжцы тры разы ў дзень.

Хваробу касьцей найлепш лячыць пасучы жывёлу на добрым пасьбішчы, абсееным канюшынай ці люцэрнай. Зялёная паша акрамя вельмі цэнных такіх складнікаў, як бялкі, вугляводы і мінэральныя солі, мае яшчэ неацанімыя вітаміны, канешна патрэбныя для здароўя кожнай жывой істоты. Коратка кажучы і найлепш кормленая жывёла ўзімку павінна даставаць такія вітамінныя пашы, як буракі, морхву, коньскі зуб, а ўлетку — павінна хадзіць на пасьбішча, ці даставаць у хляве сьвежа скошаную траву.

Калі гэтак будзем карміць жывёлу, дык яна напэўна ня будзе пібць гнойнай жыжкі *„Рільник"*.

# Кампаставаньне людзкіх адходаў

Ня любяць у нас людзі на гэту тэму ня толькі пісаць, але і гаварыць і таму трацяць проста з-пад рук тыя карысьці, якія маглі-б мець. Спрабуймо аднак на хвіліну гэту неразумную прывычку пераламаць і аб справе толкам падумаць.

Аблічана, што адходы аднаго дарослага чалавека ў год важаць каля 550 клг. і маюць у сабе 2 клг. фосфару, 2 клг. поташу і 5 клг. азоту. Гэта знача, што людзкія адходы могуць быць жаралом, з якога могуць чэрпаць пожыў гаспадарскія расьліны. Ведама, што адходы гэтыя безкарысна марнуюцца наўперад дзеля таго, што ў стане адпаведна непрыгатаваным іх ня можна даваць пад расьліны. У нас гэтай справай дагэтуль займаліся мала йшчэ і дзеля таго, што з прычын ведамага няпрыемнага запаху гэтых адходаў, земляроб наш не хацеў аб іх проста і думаць.

Цяпер ёсьць лёгкія спосабы, якія пазваляюць з людзкіх адходаў гэты няпрыемны запах выгнаць і дзеля таго цэлай гэтай справай варта зацікавіцца. Вот-жа ведаючы з-гары, што адходы людзкія маюць быць прызначаны на поўнавартаснае ўгнаеньне, адходнае месца (зацʼшак) трэба так уладзіць, каб у ім нічога не марнавалася: адходы зьбіраць ці то ў шчыльна абмураваным басэйне ці ў шчыльнай скрынцы так, каб стуль не выцякалі нават адходы плыўкія. Каб гэтак зьбіраныя адходы ачысьціць ад прыкрага запаху, іх трэба штодзень прысыпаць наперад прызапашаным дробна расьцёртым торфам, які ня толькі ўпівае ў сябе усякую плыўкасьць, але так-жа і запахі. Гэткім спосабам атрымоўвуецца сыпкая маса зусім не сьмярдзючая. На гэткае прысыпаньне адходаў аднаго чалавека ў год трэба мець прызапашаных каля 75 клг. торфу.

Калі яма ці скрыня ужо поўная перасыпанымі людзкімі адходамі, вывозяцца гэтыя адходы на загадзя выбранае, ад падмываньня забясьпечанае месца і укладаюцца у чатыракутную прызму, ушыркі да 120 і ўвышкі да 70 см. Калі прызма ўжо гатова, абсыпаецца з усіх бакоў на грубіню далані зямлёй. Гэтак насыпаную прызму (роўны капец)

пакідаюць у супакоі на чатыры тыдні. На чатырох тыднях гэту прызму раскопываюць, дамешваючы на кожныя 75клг. скомпоставанага торфу 10 клг. вапны, а добра будзе, калі да гэтага дадасца йшчэ крыха угнаеньня фосфарнага і поташавага, якіх у людзкіх адходах ёсьць значна менш чым азоту. Раскапаная кампостная прызма дакладна перамешваецца лапатай разам з тэй зямлёй, якой гэта прызма была абложана; усе груды пры гэтым старанна разьбіваюцца.

Добра вымешаную мешанку гною, торфу, вапны і г. д. ўзноў ссыпаюць у новую прызму (капец) тых самых разьмераў як і першым разам, толькі абсыпаецца яна зямлёй гэтым разам ужо на грубіню 2—3 пальцаў і пакідаюць у супакою на дальшыя чатыры тыдні, зімой крыху даўжэй, пасьля чаго усё нанава ўзноў дакладна перамешваецца само з сабой і з зямлёй, якая прызму абтуляла. — Гэтым разам атрымоўвуецца ўжо кампост зусім гатовы да ўжытку на палёх, сенажацях і асабліва пад больш вымагаючую агародніну.

Ведама, што кампосты можна такжа прыгатоўваць з рознага выпеленага пустазельля, з гаспадарскіх адпадкаў і г. п. Дзеля таго аднак, што кампосты прыгатаваныя з гэтага матар'ялу дасьпяваюць значна вальней (аж колькі месяцаў), ніколі ня можна мяшаць іх з кампостамі з людзкіх адходаў, а абавязкава укладаць на асобнай кучы. Натуральна, калі кампосты ўжо гатовыя, дык мяшаці іх з сабой ужо можна.

Паз.

# Страхоўка жывёлы

Ад нейкай пары ўсе краіны пачынаюць разумець, якое значэньне для гаспадаркі мае жывёлагадоўля і таму аб ей асабліва стараюцца. Доказам гэтага ёсьць анагдайшыя вестка ў „Самапомачы" аб заводжаньні страхоўкі жывёлы ў... Баўгарыі. Сягоньня мусім падзяліцца з нашымі чытачамі весткай аб тым, што аб страхоўцы жывёлы думаюць і ў Польшчы. Аб гэтай справе радзяцца тут адпаведнія арганізацыі яшчэ ад пачатку сёлетняга году. За гэты час (ад 18.I.1938) утворана адумысловая Тэхнічная Камісія, якая ўжо апрацавала і анагдай разаслала заінтэрэсавыным свой праект статуту.

Згодна з думкаю Тэхнічнае Камісіі страховачныя пункты жывёлы маюць быць арганізаваны пры малачарскіх копэратывах і фахова-земляробскіх арганізацыях. Гэтыя „пункты," рэч ясная, маглі-б застрахоўваць толькі скаціну сваіх сябраў. Уся праца над страхоўкай (рахунковасьць, ацэнка, выплата адшкадаваньня) вялася-б людзьмі гэтых-жа арганізацыяў. Варта пры гэтым адцеміць, што апрача самае страхоўкі, новая арганізацыя вяла-б так-жа лекарска-вэтэрынарную помач і гадаўлянае парадніцтва. Страхоўка мае быць дабравольная.

Уся гэта справа яшчэ не прадумана да канца і таму пры разважаньнях аб ей у мясцовых арганізацыях земляробскіх і ў коопэратывах кожны можа аб ей падаваць сваe заўвагі і бараніць іх.

# Замест дарожных аплатаў — дарожны падатак

Згодна з новаапублікованым законам (глядзі: Dz. U. № 59) касуюцца дагэтуляшнія дарожныя аплаты і заводзіцца дарожны падатак. Практычна замена тут тая, што падатак дарожны будуць цяпер браць і вялікія („выдзеленыя") гарады. Новы закон пастанаўляе, што дарожны падатак ня можа перавыжшаць 75 проц. (трох чацьвертых) падатку грунтавога, аблічанага без асобнага дадатку і льготаў. Міністэрства можа ў выняткавых выпадках пазволіць падняць гэты падатак найвышэй на 50 прац. і тады ён у земляробскіх гаспадарках можа выносіць найбольш 112.5 прац. аснаўнога падатку грунтавога.

Акрамя гэтага аснаўнога падатку дарожнага можа быць яшчэ дадатак самаўрадавы для тых грунтоў (таксама прадпрыемстваў прамысловых і гандлёвых), для каторых нова-будаваная дарога асабліва важная. Даплаты гэтыя ня могуць быць вышэйшыя 35 прац. агульных коштаў будовы дарогі і ня могуць адносіцца да гаспадара, каторага гаспадарка ляжыць далей як тры кілёмэтры ў адзін ці другі бок абапал дарогі. Браць гэтыя даплаты можна найдаўжэй праз 10 гадоў.

## Калі соль добра памагае

Гаворачы аб карыснасьці солі для разьвіцьця хатняй жывёлы, ня можна забывацца, што соль тады толькі сябе апраўдае, калі будзе давацца рэгулярна, аднолькавымі порцыямі, як дадатак да пашы цяжка-страўнае ці менш смашнае. Самай толькі солі да лізаньня — мала.

Цялё, пакуль п'е малозіва, солі не патрабуе; але як толькі карова пачынае даваць чыстае малако, дык малако гэта ўжо трэба саліць. На пачатак цэладзенная порцыя не павінна перавыжшаць паўлыжкі. Па трох месяцах гэту порцыю трэба так павялічываць, каб цялё да году дaставала 1 лыжку солі, а ад году да двух — дзьве лыжкі. Порцыя солі для кароў дойных залежа ад таго, колькі малака яна дае. Добрая дойка павінна дастаць удзень 4 поўныя лыжкі солі.

Добра дзее соль таксама і коням. Жарабяці да году даволі палавіны лыжкі солі. Коням, што лягчэй працуюць, даволі на дзень паўтары лыжкі, а тым, якія працуюць цяжэй, трэба даваць 2 а нават і 2 з палавінай лыжкі.

Звычайная белая (кухонная) ці шэрая соль аднак для жывёлы за дарагая. Таму найлепш ужываць да гэтага соль звольненую ад акцызнай аплаты, скажаную калькотарам (чырвоную) ці малахітавай зеленьню (зялёную). Акрамя саленьня пойлы і пашы, даецца йшчэ скаціне і коням соль да лізаньня. Пачынаючы ад восені сёлета паявяцца ў продажы яшчэ сольныя брыкеты, якія можна будзе купляць без пасьведчаньня з гміны, патрэбнага пры купляньні солі безакцызнай.

## Пабольшаны прыдзел цукру для пчолаў

Спозьненая і сьцюдзёная сёлетняя вясна вельмі дрэнна адбілася на зімовых пчаліных запасах. Таму недастатак мёду трэба дапоўніць большай порцыяй (прыдзелам) цукру. Дагэтуляшняя порцыя такога безакцызнага цукру выносіла 2 кілё на вулей. Сёлета гэта порцыя павялічана для нашых зямель (Віленшчына, Наваградчына, Беласточчына і Палесьсе) да 5 (пяцёх) кілёграмаў. Дзеля гэтага, хто ўжо выбраў сваю нормальную (2 кілё на вулей) порцыю безакцызнага цукру яшчэ вясной, той можа цяпер яшчэ дастаць дальшыя 3 кілё. На сёлетнія раі пчаляры могуць дастаць поўную порцыю цукру, г. зн 5 кілёграмаў на вулей.



### *Гаспадарская ўсячына*

**Яшчэ аб прадажы яец.** Пададзеную намі ў апошнім нумары „Самапомачы" вестку аб абавязку ад 13.VIII.38 прадаваць яйкі на вагу, дапаўняем тут тым, што ад гэткага абавязку звольнены самыя гадаўцы курэй. Важна гэта ведаць для нашых сялян.

**Бойка сялян з колёністамі.** У Кушалеўскай гміне (Наваградзкі павет) ў палове верасьня зва[…]ылася неспатыканая дагэтуль бойка сялян в. Лашуны з колёністамі колёні Крэтоны. Пабітых і параненых аказалася 7 сялян і 4 колёністаў. Бойка пайшла за мяжу.

## Гаспадарская хроніка

**На гляістых грунтох Дзісеншчыны,** якія цягнуцца праз 100 клм. абапал рэчкі Дзісенкі паласой у 10 клм. ушыркі, мае быць заложана адумысловая дасьледчая станцыя, якая будзе сьлядзіць, на колькі паднялася ўраджайнасьць гэтых грунтоў пасьля асушэньня пры помачы дрэнажаваньня. Кошт здрэнажаваньня (асушэньня) аднаго гэктара глею выносіў каля 1.000 (тысячы) злотаў.

**На Палесьсі няма вольнай зямлі** — сьцьвердзіў гэта „Гаспадарчы Інстытут Усходніх Земляў" пры „Т-ве Разьвіцьця Усходніх Земляў." Не зважаючы на тое, што паводле афіцыяльнай статыстыкі на Палесьсі выпадае толькі 31 чалавек на 1 кв. клм. абшару, па адлічэньні няпрыгодных да земляробства балатоў, густасьць насяленьня на Палесьсі акажыцца ня меншай, чым у густа

*Pierasyłka apłačana ryčałtam*



заселеных паветах Польшчы. — Дык чаму-ж на Палесьсе стала кіруюць новых і новых асаднікаў?

**Комасацыя на Палесьсі.** Ад 1927 году была праведзена комасацыя ў 412 мясцовасьцях з 58.130 гаспадаркамі, на абшары 510.508 га. Агулам узята ёсьць гэта палова ўсяго Палесься. У некаторых мясцох, напр. у павеце Драгічынскім, скомасавана ўжо 80—90 прац.гаспадарак.

**Новыя грошы.** Ад 30 верасьня сёл. ў Польшчы пушчаны ў абарот новыя банкноты („бумажкі“) па 20 злотаў з датай 11.XI.1936. Старыя банкноты тымчасам таксама яшчэ важныя.

**Бальніцу** для хатняй жывёлы ў Вялейцы будуе паветавы соймік. Пры бальніцы будзе прыкладная кузьня, у каторай пад надзорам вэтэрынара будзе паказвацца правільнае каваньне каня. У бальніцы можна будзе дастаць параду, а так-жа пакінуць хворую жывёлу на апеку і лекарскі дагляд. Кошт будовы выносе 15 тысяч зл.; сабрана гэта сума з гэтак званых вэтэрынарыйных аплатаў.

**На пошце.** Ад 1.X. сёл.: 1. касуецца абавязак гэтак званых памоцных адрэсоў пры надаваньні на пошце пасылак, вартасьць якіх не перавышае 200 (дзьвесьце) зл.; 2. уводзіцца спосаб пасыланьня пачак „на оказіцеля:“ пасылаючы пачку замест пісаць цэлы адрэс, даволі назваць самую пошту і дапісаць: *poste restante na okaziciela*. Каб атрымаць з пошты гэткую пасылку, трэба аддаць гэтак званы „*dowód nadania*,“ які выдала тая пошта, якая пасылку прыняла. — Дальшыя зьмены істотнага значэньня для вёскі ня маюць.

**Вясковыя паштальёны.** Ужо нейкі час, як уводзяцца ў Польшчы гэтак званыя *вясковыя паштальёны*, заданьнем якіх ёсьць абслужываць мясцовасьці (вёскі, сёлы, хутары) у якіх няма ані пошты ані паштовай агенцыі.

Гэткія паштальёны абходзяць кожную мясцовасьць 2—3 разы ў тыдзень, залежна ад патрэбаў і адлегласьці. Даручаюць яны пісьмы і такія пасылкі, якія важаць ня больш поўкілёграма, з тым аднак, што такіх пасылак паштальён бярэ за раз ня больш як пяць. — Акрамя таго гэткі паштальён прыймае пісьмы заказныя („палеционыя“), грашавыя пераказы, ашчаднасьцявыя ўклады на П.К.О. і малыя пачкі, выймае па дарозе пісьмы з паштовых скрынак. За даручэньне пачак паштальён бярэ адумысловую аплату; калі-ж такую пачку адрэсат бярэ з пошты сам, дык гэткай аплаты ня плаціць.

**Сабралі і... адаслалі.** У палове верасьня сёл. у Вільні была на вуліцах публічная зборка дабравольных ахвяраў для сьляпых. З справаздачы аб гэтай зборцы выясьнілася. што ўсяго сабрана было 1.748 зл. 73 гр. На патрэбы няшчасных сьляпцоў у Вільні аднак пакінулі толькі палавіну гэтай сумы; другую палавіну (864.37) адаслалі ў цэнтральную Польшч. Ці не за шмат?

**За шмат курым.** Аблічана, што за 7 першых месяцаў у нашым Краі сёлета было скурана 340 міл. штук папярэсаў, падчас калі летась у гэтым-жа часе было скурана 275 млн. штук папяросаў. Сумная статыстыка.

**Сельска-гаспадарскую энцыклёпэдыю** у трох вялікіх томах апрацоўваць пачало украінскае т-ва „Сільський Господар“ у Львове пад рэдакцыяй Д-ра Е. Храпливага. Выдасьць гэту вельмі цэнную працу Украінскі Выдавецкі Інстытут. Падпіска на энцыклёпэдыю ўжо прыймаецца месячна па 4 зл.: пры даставе сшыткамі 60 зл., пры даставе цэлымі томамі апраўленымі ў палатно — 69 зл. і пры даставе апраўленай у паўскурак – 75 зл. заказы пасылаць на адрэс: Український Видавничий Інститут, Львів—Lwów — Личаківська 4.



„Самапомач“ выходзіць раз на месяц
ПАДПІСКА на „Самапомач“: на год — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год за 5 штук 10 зл., а за 10 шт. — 15 зл. Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам“ на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1. Рэдакцыя адчынена штодзень ад гадз. 13 да 15.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Выдавец: „БЕЛПРЭС“
Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1.